„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 6 (50) БЕЛАСТОК, 10 ЛЮТАГА 1957 г. ГОД II

## Чытачы — Беларусы!

Вось і 50-ты нумар «Нівы»! Ужо 50 тыдняў гучыць нам нашае роднае беларускае слова, якім «Ніва» са сваіх старонак гаворыць да беларусаў.

Колькі шчырай радасці было, калі ўсе мы даведаліся, што будзе друкавацца беларуская газета. Свая газета — гэта сапраўды вялікая радасць для беларусаў. Але ўжо 50 нумараў выйшла і ўсё-ж такі ёсць шмат беларусаў, якія не выпісваюць сваёй газеты, не чытаюць яе, не цікавяцца аб чым яна піша і ў чым можа дапамагчы.

Шмат беларусаў баяцца падпісвацца на «Ніву», баяцца, што будуць праследваны за гэта. Нават некаторыя, што раней выпісвалі яе — цяпер зракліся з падпіскі «Нівы». Прыкра гэта! Наш патрыятычны абавязак стаяць за беларускую справу, — за сваю «Ніву». Гэта-ж адзіная беларуская газета ў Польшчы, гэта адзіная газета, якая найлепш ведае жыццё беларусаў, якая з найбольшай любоўю падыходзіць да нашага брата — беларуса і якой найманцней баляць усе клопаты і патрэбы беларусаў у Польшчы.

Выпісвайце-ж тады і чытайце «Ніву», беларусы! Пішыце ў рэдакцыю, звяртайцеся да яе з усімі сваімі цяжкасцямі. А ёсць іх у Вас нямала. Раскажыце-ж іх, — «Ніва» будзе дапамагаць. БЕЛАРУСЫ! Пакажыце сваю любоў і адданасць да роднага беларускага слова, сваю вернасць нашаму народу. Чытайце свой родны часопіс!

Няхай «Ніва» завандруе ў кожную беларускую сям'ю, да кожнага беларуса, дзе-б ён не знаходзіўся: ці то далёка над Одрай, ці над берагам мора, ці на Беласточчыне.

Падпішыся на «Ніву» не толькі сам, але і з суседам, пагавары, каб і ён падпісаўся. Гэтым праявіш патрыятычную паставу.

Годзе нам саромiцца свайго! Пакажам, што і мы людзі, маем гонар, што і нам тое, што наша з'яўляецца найдаражэйшым і найпрыгажэйшым.

Выпішыце і чытайце «Ніву», старэйшыя і моладзь, бацькі і дзеці, настаўнікі і вучні! Хай нам прысвячае лозунг «Кожны беларус чытае сваю «Ніву».

Члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства! Павялічвайце колькасці падпісчыкаў «Нівы»! Падпіска на «Ніву» забяспечвае пастаянную рэгулярную дастаўку яе да рук падпісчыка.

Падпіска на другі квартал прымаецца ўжо ад 11 лютага, а квартальная цана падпіскі толькі 7 зл. 80 гр.

Тады спяшайце да паштовых установаў і пісьманосцаў. Масавай падпіскай Вы акажаце свой патрыятызм.



*Галоўны ўваход у парк «Дынама» у Мінску.*

## СПРАВЫ НЕ НОВЫЯ

Едучы ў Гданьск я мала, амаль што нічога не ведаў, аб пражываючых там беларусах. Меў штопраўда знаёмых беларусаў. Але некалькі асоб — гэта мала. Лічыў, на тое, што мае знаёмыя пражываючыя на ўзбярэжжы паінфармуюць мяне: ці ёсць там беларусы, і хто яны?

І не памыліўся. Даведаўся я, што ў рэчаіснасці ў Гданьскім ваяводстве ёсць шмат беларусаў. Гэта людзі, якія пасля вайны засталіся ў Польшчы. Дагэтуль жылі ў Навагрудчыне, ля Ваўкавыска, Баранавіч. Гэта ў большасці маладыя людзі, якія ўжо пасля вызвалення кончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы: лекары, інжынеры, шмат афіцэраў. Ёсць і прадстаўнікі Беласточчыны, якія па прычыне сваёй прафесіі, ці становішча былі накіраваны менавіта там працаваць.

Але не аб тым я хачу пісаць. Цікавілі мяне людзі. Сустракаўся з імі, гутарыў, спрачаўся. Пасля гэтых гутарак я многа думаў. Хвалявала мяне шмат праблемаў. Шукаў я прычын таго, што я там пачуў і пабачыў.

Так, пражываюць на ўзбярэжжы беларусы. Цяжка мне акрэсліць, колькі іх там ёсць. Адно з'яўляецца пэўным, што іх там трэба лічыць не на сотні, а на тысячы. Раскіданы яны амаль ва ўсіх паветах Гданьскага ваяводства. Характэрна ім усім з'яўляецца тое, што яны ў душы адчуваюць сябе беларусамі. Чытаюць кожны нумар «Нівы». Часта ў хатніх бібліятэках можна сустрэць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і іншых беларускіх пісьменнікаў. Часам збярэцца некалькі асоб, каб пачытаць творы беларускіх пісьменнікаў. Аднака-ж у тым асяроддзі ніхто не ведае, што яны з'яўляюцца беларусамі. Проста не прызнаюцца яны да сваёй нацыянальнасці.

Гутарыў я з некалькімі таварышамі ў гданьскім Ваяводскім камітэце партыі: «Беларусы»? — У нас такіх няма, — гаварылі мне. Украінцы ёсць, мы аб іх ведаем.

Няма тут нічога дзіўнага. Адкуль яны могуць ведаць, калі беларусы не прызнаюцца да сваёй нацыі. Шукаў я прычын гэтага. Частка з сярод іх проста так гаварыла. «Ёсць тут нас мала, не хочам адрознівацца чым-небудзь ад асяроддзя ў якім пражываем». У іншых можна было адчуць, што баяцца з прычыны сваёй нацыянальнай прыналежнасці мець якія-небудзь непрыемнасці. Паказвалі мне і такіх беларусаў і гаварылі «ты там не ідзі, ён і так не прызнаецца, нават табе, што ён беларус».

І яшчэ адно характэрнае для ўсіх: «Ах, з «Нівы» — вельмі прыемна. Толькі вы не падавайце нашых прозвішчаў у газеце, так будзе лепш. А «Ніву» мы чытаем і будзем чытаць, не хвалюйцеся». Якая супярэчнасць. З аднаго боку любоў да беларускай мовы, культуры, з другога — канспірацыя, няхай не ведаюць, што я беларус».

На мой погляд прычын такой сітуацыі трэба шукаць у мінулым. «Ніва» часта пісала аб гэтых прычынах, няма патрэбы аб іх шырока пісаць несумненна мела на гэта ўплыў і хваля нацыяналізму, якая пракацілася ў Польшчы ў апошніх месяцах.

Ці-ж можна мець прэтэнсіі да гэтых людзей? Ці можна іх абвінавачваць у тым, што яны не прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці? Думаю, што не. Умовы так склаліся, што гэтая праблема выступала не толькі ў заходніх ваяводствах, але і ў Беласточчыне. Умовы змяняюцца. Польскі друк шмат піша аб нацыянальных справах. Народная ўлада прымае штораз вастрэйшыя меры супраць нацыяналістаў.

Разгортвае і будзе ў далейшым разгортваць сваю дзейнасць БГ-КТ. Польская грамадскасць усё больш ведае, аб праблемах нацыянальных меншасцей у Польшчы.

Гэтыя ўсе факты, без ніякага сумнення прычыняцца да таго, што законспіраваныя беларусы перастануць скрываць сваю нацыянальную прыналежнасць.

М. М.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# КУЗНІЦА

Цягнік далей не едзе. За ўзгоркам граніца. У даліне паміж пасмам гравіраваных узгоркаў ціхенька прысела вёска. Справа, царыць над вёскай могільнік са схіленымі са старасці крыжамі. Недалёка касцёл, на лева царква. Хоць Кузніца з'яўляецца вёскай, аднак робіць многа большае ўражанне чк недалёка аддеглае «мястэчка» Дуброва.

Прыгледзімся да некаторых момантаў жыцця ў Кузніцы з пункту гледжання таго што было, што ёсць зараз і якая ёсць перспектыва на будучыню.

Вось найвышэйшая ўлада Кузніцы — Грамадская рада нарадовая. Практычна за раду ўрадавалі ўсе павятовыя ўлады. Выручалі яе ў арганізаванні сесій, планаў, пастаноў і г. д. Людзі ў радзе адвыклі думаць, самастойна працаваць. Селянін з далёк абыходзіў гэтую нібы «сваю» раду. А сёння?

— Цяжка прызвычаіцца да новага спосабу працы — кажа старшыня, але, верце нам, зараз на сесіях і на сходах пануе вялікае ажыўленне, ідуць жывыя спрэчкі. Прыходзіць многа людзей, якія радзяць, падаюць прапановы.

І вось у гады нашых «гіганцкіх» дасягненняў такія вёскі як Кузніца і тысячы ім падобных памерлі натуральнай смерцю. Усялякімі пастановамі і ападаткаваннямі ліквідавана рамесніцтва. У Кузніцы не было ніякай нават звычайнай сталовай, не было дзе дастаць што - небудзь з'есці. Быццам-бы ў ГС-е не было грошай і ўмоў на тое, каб адкрыць сталовую. Павод ле іх — гэта неаплочвалася. (Апошнім часам там крыху інакш стаяць справы). Але нядаўна побач ГС-а, якому нерэнтабельнай з'яўлялася сталовая, Станіслаў Паўлоўскі і Станіслаў Анушкевіч адкрылі ніштаваты сабе растаранік. Там ёсць чым пасілкавацца, пагрэцца можна і манко няма, ім гэта і рэнтабельнае, а да таго-ж і сяляне празмерна рады.

На водшыбе Кузніцы стаіць сабе звычайны, невялікі млын. Да 1952 г. людзі прывозілі тут малоць збожжа. Гаспадар млына не паспяваў абагнацца ад падаткззбіральнікаў, хабарнікаў і ўсялякіх камісій. Але нарэшце не вытрываў і адзіны ў аколіцы млын перастаў малоць. Праз 5 гадоў сяляне вымушаны былі ездзіць малоць за 30—50 і 80 кілометраў у Саколку, Васількаў і Аўгустаў, а апрача таго цэлымі тыднямі даводзілася чакаць пакуль прыдзе чарга на кожнага з іх. Людзі праклiналі ўсіх і ўсё на чым свет стаіць, пасылалі прашэнні ў Дзяржаўную раду і ў ЦК Партыі і ў «Хвалю — 49». Пад прашэннямі падпісваліся цэлыя вёскі людзей. Людзі дамагаліся, каб прывесці ў дзейнасць млын, які стаяў з пячаткай на дзверах.

Аднойчы прыехала туды нейкая камісія — пакруцілі галовамі і дайшлі да вываду што млын можна прывесці ў дзейнасць, але на гэта трэба поўмільёна грошай і да таго трэба ўлажыць шмат працы.

Калі павеяў вецер польскага кастрычніка грм. Рудзь (яго ўласнасцю з'яўляецца млын) прабіў галавою мур бюракратыі. Без поўмільёна злотых і не дакладаючы так многа працы справа рушыла з месца. Праз некалькі дзён млын пачаў працаваць. Каля млына фурманак аж густа. Сёння не трэба ехаць за 50—80 км.

— Паночку — кажуць сяляне — мы то асцярожныя і зараня нікога не хвалім, але за тое, што ўлады дазволілі прывесці ў дзейнасць гэты млын і за тое, што перасталі браць меркі і адсыпы — няхай таму Гамулцы і ўраду дасць Бог здароўе.

Мінулае і сучаснае жыццё 7-класнай школы ў Кузніцы стварае асобны і багаты матэрыял — тэму да напісання артыкула, але я абмяжуюся толькі да некаторых фрагментаў з яе жыцця.

Кіраўнік школы — Валькоўскі — гэта стары педагог. У адной толькі Кузніцы ён ужо 12 год вучыць. Расказвае мне як гэта настаўнікі праводзілі дзяржаўныя закупкі збожжа, будавалі кааператывы, а іх асноўная праца — праца настаўніка - выхаваўцы, можна сказаць спачывала. Часу ім не хапала, спазняліся з праграмай.

Настаўнік аказаўся залежны ад розных фактараў. Кожны хацеў па парадкаваць яго сабе. Кастрычніцкі вецер адсвежыў школьныя залы, праграмы, бібліятэкі, а настаўнікі пачалі рабіць нарэшце тое, што трэба — вучыць. Зараз ніхто не ўмешваецца ў справы школы ў Кузніцы.

Кузніца такая невялічкая, а ў ёй толькі цікавых праблем з мінулага і сучаснага. Я толькі над некаторымі спыніўся. Вясна прынясе з сабой шмат новых перамен. Тут будзе праходзіць пераходная пагранічная станцыя да Гродна. Будзе перабудавана станцыя, паставіцца таможню. Магчыма, што сённяшняя вёска будзе называцца пасёлкам або мястэчкам. Вясною будзе створана тут Варшаўскае Прадпрыемства эксплуатацыі раздробленай пароды (крушыва), у якім будзе працаваць больш чым 100 работнікаў. Селянін Каўпацкі будзе вырабляць чарапіцу. Праектуецца адкрыццё новых крамаў, каўбаснай і пякарні.

Пабыўка ў Кузніцы ўзбагаціла вобраз нашага кастрычніка.

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ

## З жыцця нашай школы

Наш педагагічны Ліцэй у Бельску - Падляскім існуе ад 1950 года. У яго склад уваходзяць польскія і беларускія класы.

Моладзь наша, — беларуская і польская, — жыве паміж сабой у вялікай згодзе і братэрстве. Не было яшчэ ў нашай школе ад пачатку яе існавання ніякай нацыянальнай спрэчкі. Мы сумесна жывем у інтэрнаце, сумесна спяваем беларускія, польскія і рускія песні, і размаўляем як хто хоча: ці то па-беларуску, ці то папольску, бо ніхто нам у тым выпадку не перашкаджае. Адным словам, наша моладзь выхавана ў духу інтэрнацыяналізма і моцна ім прасякнута.

Наша беларуская моладзь любіць сваю беларускую мову, моцна ёю ганарыцца і прыкладае ўсе старанні каб здабыць веды па беларускай мове ў школе, бо ведае, што пасля сканчэння Ліцэя пойдзе працаваць у беларускія школы.

Мы ведаем, што абавязкі настаўніка заключаюцца не толькі ў навучанні дзяцей, але кожны настаўнік павінен памятаць, што яго абавязкам ёсць адначасова несці светач культуры і асветы ў народныя масы.

Ведаем, што ў мінулым годзе ў нашым павеце ўтворана Павятовы Аддзел БГ-КТ, але аб яго дзейнасці мы яшчэ нічога не чулі. Наша беларуская моладзь IV класа ў мінулым годзе была на арганізацыйным з'ездзе БГ-КТ у Бельску і ўважліва выслухала даклад, дзе былі падкрэслены заслугі Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску, — што з той школы выйшла многа інжынераў, тэхнікаў, медыкаў, фармацэўтаў і іншых, якія працуюць у розных гарадах Польшчы, але аб заслугах нашага Педагагічнага ліцэя, які штогод выпускае 30 і больш беларускіх настаўнікаў, якія ідуць у беларускае асяроддзе і з'яўляюцца там светачамі беларускай асветы і культуры, у дакладзе не было і ўспаміну, і нам, — моладзі, было непрыемна. Таму вельмі хацелі-б, каб рэдакцыя хоць трохі зацікавілася намі, як будучымі настаўнікамі, і каб хто-небудзь час-адчасу прыехаў да нас на размову ў вольныя гадзіны ад заняткаў у школе.

Такая сувязь была-б вельмі пажаданая і карысная для нас і агульнай справы беларускай.

Нам вельмі прыемна, што газета «Ніва» дасягае да найдалейшых куткоў Польшчы і нават заграніцу, але мне здаецца, што яшчэ было-б лепш, каб яна дасягала ў большай колькасці экземпляраў да ўсіх беларускіх вёсак.

СЯРГЕЙ ФІЛІПЮК
вучань IV кл.
Педагагічнага Ліцэя
ў Бельску.

П. ЛАСТАУКА

# ЗА ВАРОТАМІ*

*У 30-ыя ўгодкі сябрам супольнае нядолі і працы для Бацькаўшчыны прысвячаю.*

Раз і другі скрыгатнуў ключ, трэснула засаўка, заенчалі, цяжка застагналі жалезныя дзверы і Станіслаў апынуўся сам за брамай астрогу. Кінуў яшчэ раз ненавісны позірк на муры, у якіх столькі змарнаваў часу і адвярнуўся. Перад ім ляжала расцягнутае поле. Сінелі высыхаючыя іржышчы і жаўцела бульбяное каліўя. У паветры чуваць было ашаламляючы пах далі і радаснай свабоды, салодка расхінаючы грудзі. Рад быў-бы прыгарнуць гэта ўсё да сябе, каб нацешыцца ўдоваль. ! зноў свет быў перад ім адчынены ў цэлай сваей красе. Стаяў хвіліну ўгледжаны, цэлым сэрцам праглынаючы гэтую радасць, якая ахапіла яго цэлага. Раптам сарваўся з месца і пабег да віднеючага аўса, паваліўся каля яго на зялёную траву, заглыбіў у яе твар ўцягваючы ў свае грудзі найсалодшы пах, каторага быў пазбаўлены цэлы год. Цяпер цешыўся, упайваўся да забыцця, захлыстаўся без памяці, аж пачуў, што слабее, слабее памалу... нарэшце моцна заснуў.

Калі прачнуўся, сонца было ўжо над захадам. Зварухнуўся, жыва ўстаў, паправіў змятае адзенне, каб выглядаць схлюдней і накіраваўся ў горад, які ляжаў у нізіне. Шоў няпэўна і нясмела, няверыў яшчэ, што ён ужо вольны. Гэтага дня ў мястэчку быў кірмаш. Сяляне вяртаючыся з места, дзіўныя позіркі кідалі на маладога хлопца, які быў гладка абстрыжаны, у знішчанай вопратцы і ў дабавак босы, бо вастрожныя, драўляныя башмакі трэба было перад выхадам здаць, а свае, у якіх быў арыштаваны год таму назад, зусім знішчыў у першых месяцах.

Але не дбаў пра гэта. Рад быў, што вольны, што зноў будзе мець магчымасць працаваць для дабра свайго народу.

Неўзабавак быў на рынку. Нягледзячы ўжо на позную пару было тут вясёла і бурліва. Прадаўшчыкі заклікалі да свайго тавару, захваляючы яго і ўціскаючы ў рукі прахожым. Цесна побач сябе пастаўленыя, няхлюйныя крамікі былі перапоўнены сялянкамі, якія таргуючыся да скутку куплялі рэчы патрэбныя ў хатняй гаспадарцы. Мужчыны то тут, то там, распраўлялі аб нечым, або на вазах пілі, так распаўсюджаную на гэты час гарэлку, якую называлі «Познаньскай». Як рынак, так сама і прыбочныя да яго вуліцы былі ў неладзе. Старэнькія пахіленыя хаткі, паламаныя пры іх агароджанні, свядчылі аб недахопе жыхароў.

Гэты вобраз быў для яго жудасны. — О як-жа шмат трэба намаганняў — думаў — каб скінуць шматвяковую няволю. Як вялікага трэба ўкладу працы, каб направіць крыўды нанесеныя ворагам... Калі-ж гэта будзе?... — пытаў бязрадна.

Ашаломлены наглай свабодай, рухам і душным, няпрыемным паветрам, мучаны пытаннямі, на каторыя не змог даць адказу, забыўся паданы старажам вастрогу адрас «патранату», дзе меўся атрымаць матэрыяльную дапамогу на паварот у сваю мясцовасць. Шоў рынкам няведаючы куды і дарэмна шукаючы ў памяці. Нарэшце адважыўся спытаць першага напатканага паліцэйскага, які паінфармаваў, дзе знаходзіцца гэтая дабрачынная ўстанова, з якой быццам выйдзе ўспаможаны.

Поўны радасці і надзеі накіраваўся туды і неўзабаве знайшоўся на плебаніі ксяндза-дабрадзея, каторы быў «альфай і амегай» «патранату». Нясмела пастукаў у першыя напатканыя дзверы, цераз якія пачуў праціскаючыся пах кухонных прыпраў, дражнючы яго паднябенне і абдараючы салодкай абяцанкаю... Нечакаючы на «проша» — увайшоў. Каля кухні топалі дзве маладыя жанчыны, якія пільна занятыя пячэннем, нячулі ані стукання, ані ўваходу. Затрымаўся каля дзвярэй праглынаючы вачыма румяныя кускі, вараныя на патэльнях і глытаючы раз у раз слінку. Спрагнуты быў гэтага, не бачыў і не еў не толькі ў астрозе, але і там, дома ў сваёй вёсцы ў якой нарадзіўся і выхаваўся, тым больш, што ад шостага году свайго жыцця быў сіратой, дык скуль-жа? такія прысмакі, і захланна ўцягваў пах.

Адна з жанчын за нечымсь там адвярнулася, а ўбачыўшы няпрошанага госця, спалохана, спытала востра:

— Што тут хацелі?

Зразу нячуў пытання. Моцна ўгледжаны ў патэльні, на румяныя ў іх кускі, думаў:

— Можа для мяне... для нас? — шаптаў з салодкай шчаслівасцю .

— Вы што тут хацелі? — паўтарыла падыходзячы бліжэй.

— Я, я ў «патранат» за дапамогай... — цадзіў не адрываючы вачэй і штораз мацней глытаючы слінкі, пахілены ў бок, з каторага плыла, хваля багаслаўленага паху, будзячы ўсе каморкі яго цела...

— Што, з астрога? — пагардліва змерыла — хадзеце, — завяду да ксяндза.

І тымі самымі дзвярыма, якімі ўвайшоў, вывела на процілеглы бок калідора і паказала дзверы.

— Ідзіце туды! — змерыла ізноў, зморшчылася і адыйшла.

На дзвярах была таблічка: «Патронат несе помоц вензнём».

Абрадаваўшыся, што ўжо блізка мэты — пастукаў.

Проша! — пачуўся гучны і пыхлівы голас.

Станіслаў увайшоў, пакланіўся як прышло на добра выхаванага хлопца і чакаў быццам неадчуты і незаўважаны міма сваёй прысутнасці. За бюркам сядзеў ксёндз добра збудаваны і зажыты. Перад ім разложана газета ў якую быў угледжаны і як-бы моцна быў заняты. У пакоі яснела чыстасцю і свежасцю. На падлозе ляжаў вялікі дыван. Вокны застаўлены кветкамі, а па калонках апусціліся добра і буйна разросшыся аспарагусы. На сценах, у пазалочаных рамах партрэты святых і краявіды, сярод якіх вялікімі літарамі выпісаны кліч: «Глодных накарміць, спрагнёных напоіць».

— Ну, буду сыты! — радасна ўздыхнуў, а на вуснах паказалася радасная ўсмешка.

# ВАКОЛ беларускіх традыцый

Яшчэ перад новым рамантычным напрамкам у літаратуры ў віленскім асяроддзі выступаюць тэндэнцыі рэгіянальныя, цесна звязаныя з беларускім народам і яго культурай. Тэндэнцыі гэтыя праяўляюцца першапачаткова ў дзейнасці віленскага Таварыства Шубраўцаў, выступаючага ў абароне сялян, а пазней выступаюць у праграме дзейнасці студэнтаў Віленскага універсітэта, згуртаваных у арганізацыі філяматаў. Члены гэтай арганізацыі падчас летніх канікул збіралі весткі аб умовах жыцця беларускага народа, яго абрадах і звычаях.

У адной з філамасціх інструкцыяў гаварылася: «Адносна трэцяга стану жыхароў, больш за ўсё трэба звяртаць увагу на вопратку, памяшканне, схільнасці, некаторыя забабоны, на мову, абыходжанне мужчын з жанчынамі, бацькоў з дзяцьмі і гэтых з бацькамі; на абрады ў пэўныя дні года, а таксама пры іншых акалічнасцях (шлюбу, нараджэння, хаўтур). Гэта давала магчымасць бліжэй пазнаць і звязацца з жыццём беларускага народа і яго духовымі праявамі. Гэтыя прыгожыя тэндэнцыі падтрымліваюць, развіваюць і паглыбляюць у сваіх творах паэты-філяматы. Да іх належыць між іншым Антоні — Эдвард Одынец, які распачаў сваю творчасць у тым часе, калі ўжо Зан і Чэчот былі вядомымі паэтамі сярод філяматкай моладзі. Одынец, таксама як яго папярэднікі, яшчэ ў дзіцячыя гады і гады сваей маладосці сустракаецца з народнай беларускай паэзіяй. Хоць і ўводзіў паэт да сваёй ранняй творчасці фальклорныя матывы, аднак не патрапіў так глыбока адчуць і захапляцца імі, як Чэчот ці Зан. Першым творам, у якім пераймае з народнай паэзіі матыў свавольнага страха, з'яўляецца балада з 1822 года — «Strachy».

У замку жыве страх і не дае нікому тут асесць. Калі наступае ноч — ён:

„W nieznajomych strojach
Chodzi po pokojach,
I aż zaczną śpiewać kury,
Różne płata awantury".

Яго нельга адтуль ніяк выгнаць. Урэшце выстрашыў яго нейкі паэт чытаннем сваіх твораў.

У легендзе «Jałmużna» убогая дзяўчына ідзе купіць ежу цяжка хворай матцы. Па дарозе спатыкае жабрака, якому аддае апошнія грошы. Аказалася, што гэта не быў жабрак, а анёл у постаці жабрака, які за літасць дзяўчыны ўзнагароджвае яе тым, што здароўе маткі палепшылась і дзяўчына вырасла прыгожай. Падчас палявання каралевіч пакахаў яе і ўзяў за жонку.

Такія матывы, як анёл у постаці жабрака, убогая дзяўчына, якая за добрыя ўчынкі стаецца прыгожай і выходзіць замуж за каралевіча, вельмі часта спатыкаецца ў беларускіх баснях. У іншай зноў легендзе «Świat duchów», дзяўчына плача над магілай сваіх бацькоў. З'яўляецца пустэльнік і пацяшае яе тым, што памёршыя бацькі знаходзяцца блізка і апякуюцца ёю.

Падобны матыў, калі Бог у постаці жабрака суцяшае сірату, знойдзем у беларускіх песнях.

У баладзе «Sen Olesi», Алеся апавядае варожцы сон, у якім разам са сваім каханым ляцела голубам. Народ верыў, што калі бачыш у сне голуба, то хутка выйдзеш замуж. У адной з вясельных песень гаворыцца:

— Сівы голубы — то сваты твае,
Белы жэмчуг — коскі твае,
— А золата — слёзкі твае.

Да балады А. Міцкевіча «Тукай» Одынец піша трэцюю і чацьвёртую частку ў якіх выкарыстаў некалькі матываў з беларускіх басняў. Тукай, калі ўжо моцна пастарэў і захацеў адмаладзіцца — выбраў трох сваіх сяброў і пастанавіў пераканацца ў іх вернасці. Аднаму з іх дае слоік з дыяментамі кажучы:

„Przyjacielu! ufam tobie.
Nie pytaj na co i czemu?
Lecz weź ten słój, pójdź do zdroju,
I cokolwiek będzie w słoju,
Proszę, byś do wody wrzucił" —
Przyrzekł, poszedł, nie powrócił.

Другі сябра таксама не вяртаецца, толькі трэці вярнуўся. Яму Тукай пазволіў пасячы сябе. Падобны матыў трайнога выпрабавання можна знайсці ў беларускіх баснях. У апошняй частцы балады прыяцель выконвае далей яго наказ. Склейвае ўсе часткі цела Тукая. Прыяцель не дакончыў свае працы, засталася яшчэ галава. Раптам зрываецца бура. У хату ўваходзіць нейкі незнаёмы чалавек, каб схавацца ад буры.

„Gość nie w porę, rzeczywiście
Gorzej Tatara: — lecz juścić
Niepodobieństwo nie wpuścić!
Albowiem rzecz się jak wiecie,
Dzieje w Litewskim powiecie,
A żaden bardziej być ludzki
Nie może, jak Nowogródzki".

Незнаёмы госць сваёй размовай так зацікавіў гаспадара, што той забыў у назначанай гадзіне прыклеіць Тукаяві галаву. Госць знікнуў, а Тукай схапіў сваю галаву і шпырнуў ею ў прыяцеля, разбураючы пры тым цэлы замак. Намеры Тукая аб адмаладжэнні не збыліся. Народ верыў, што чорт часта перашкаджае людзям у выкананні нейкіх важных жыццёвых намераў і нішчыць іх.

Беларускія народныя матывы хоць у значна меншай ступені, чым у Зана, Чэчота ці нават Одынца выступаюць ў творчасці Аляксандра Ходзькі.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць дзве яго балады: «Wasilek» і «Maliny». У баладзе «Wasilek» скарга хлопца Васілька над магілай бацькоў падобна скарзе з народных песень, у якіх сірата ідзе на магілу маці і вядзе з ёю гутарку. Аднак скарга ў баладзе розніцца ад скаргі ў народнай песні тым, што калі ў песні сірата пералічвае падрабязна ўсе свае крыўды, якія спазнае ад мачахі і просіць маці, каб апекавалася ім — то ў баладзе, Васілёк, пад уплывам глыбокага жалю, раздае бедным маёмасць застаўленую бацькамі, а сам апранаецца ў адзенне жабрака і хоча хутчэй памерці, каб на тамтым свеце быць разам з бацькамі.

Балада «Maliny» з'яўляецца адным з лепшых твораў Ходзькі, у якой выкарыстаў і артыстычна апрацаваў вядомую ў Валкавыскім павеце басню «Аб трох сёстрах, што па ягадкі пашлі». У ёй гаворыцца аб тым, як селянін выслаў тры свае дочкі ў лес па ягады, з той мэтай, што каторая з іх хутчэй назбірае ягад, тую выдасць замуж. Калі наймалодшая назбірала найбольш за ўсіх, тады старшыя сёстры з зайздрасці забілі яе і пахавалі на лугу каля рэчкі, а на магіле пасадзілі дрэўца. З гэтага дрэўца пастушок зрабіў дудку, якая сказала яму чалавечым голасам аб забойстве дзяўчыны за кубачак ягад. У той момант прыязджае пан, чуе як пастушок іграе. Пан купляе ў яго дудку. Пазней, едучы цераз вёску пан пераначаваў якраз у бацькі забітай дачкі. У хаце гралі на дудцы, а яна ўсім гаварыла аб забойстве. Даведаўшыся аб гэтым, бацька адкапаў дачку, а цела дачок - забойцаў казаў разарваць на жалезных боранах.

Варта параўнаць яе з баладай «Maliny». У баладзе паэт уводзіць пана яшчэ перад забойствам, а пан выступае як нарачоны той, якая больш збярэ малін. Пазней ён бярэ за жонку забойцу. Гэта прыдае баладзе больш драматычнасці. Замест пастушка паэт уводзіць Міхася — сына забойцы, які іграе матцы на дудцы аб забойстве.

Аб выкарыстанні некаторых матываў сам паэт гаворыць, што: «У байцы з каторай зрабіў гэтую баладу, пастушок прыходзіць з дудкай; памятаю толькі першы верш з песні, якую іграе дудка: «грай пастушок, грай».

Дзякуючы выкарыстанню зместу народнай басні і ўмеламу набліжэнню формы балады да народнай творчасці, яе можна змясціць побач лепшых баладаў Адама Міцкевіча.

УЛ. ШЭШКО.

# Чаму людзі вывучаюць міжнародную мову эсперанто?

На пісьмовым стале ляжыць перада мной орган Міністэрства культуры і Галоўнага праўлення Саюза пісьменнікаў БССР «Літаратура і Мастацтва» № 3 з 9 студзеня 1957 года.

На чацвёртай старонцы гэтага нумара я прачытаў цікавы артыкул пад загалоўкам «Вывучаюць мову эсперанто», які напісалі студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна Н. Васілеўскі і В. Мацкевіч.

У артыкуле паведамляецца, што ў сувязі з падрыхтоўкай да VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, які адбудзецца летам гэтага года ў Маскве, на Беларусі шырока разгарнулася вывучэнне міжнароднай мовы эсперанто.

А чаму? Вядома, хто будзе валодаць гэтай мовай, той будзе магчы свабодна размаўляць з замежнымі эсперантыстамі, якія прыедуць на фестываль літаральна з усяго свету, бо мова эсперанто пашырылася ўжо па ўсіх кантынентах.

Утварыліся гурткі па вывучэнню эсперанта пры Палацы піянераў, Палацы культуры прафсаюзаў, пры Універсітэце і іншых вышэйшых навучальных установах. Мову эсперанто вывучаюць таксама і маладыя вучоныя Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук і супрацоўнікі часопіса «Комуніст Беларусі».

Аўтары прыводзяць, між іншым, вельмі цікавы факт. Янка Маўр, беларускі пісьменнік, напісаў свой раман «Амок» на аснове матэрыялаў на мове эсперанто, прысланых яму каля 30 год таму назад эсперантыстамі Інданезіі.

Таксама і ў нас, у Польшчы, апошнім часам пашыраецца вывучэнне гэтай вельмі карыснай мовы. Вывучэнне праводзіцца на курсах у розных арганізацыях, установах і школах. Карэспандэнцыйны курс праводзіць Саюз эсперантыстаў у Польшчы (Związek Esperantystów w Polsce, Warszawa, ul. Kozia 3 m. 31), які па патрабаванню высылае падручнікі міжнароднай мовы.

Жыхары Беластока і Беласточчыны спецыяльна зацікаўлены мовай эсперанто, бо гэта-ж у Беластоку нарадзіўся ў 1859 годзе доктар Людвік Заменгоф, заснавальнік эсперанцкай мовы. Апрацоўку гэтай мовы Заменгоф пачаў у Беластоку, будучы яшчэ гімназістам, а закончыў потым у Варшаве, дзе і выдаў першы падручнік у 1887 годзе.

Міжнародная мова патрэбна не толькі на фестываль, яна патрэбна заўсёды. Валодаючы мовай эсперанто, вы можаце, жывучы дзенебудзь у закінутай нават вёсцы, перапісвацца з далёкімі сябрамі ў Азіі, Афрыцы, ці ў іншых частках свету .

Эсперанцкая мова хутка пашыраецца, бо яе лёгка вывучыць. Дастаткова некалькіх месяцаў, каб авалодаць ёю і ўмець гаварыць, пісаць і чытаць.

Людвік Заменгоф спрасціў граматыку эсперанто да 16 правіл, а словы узяў з розных моў, таксама і са славянскіх.

Усе назоўнікі на эсперанто маюць канчатак *-o*, напрыклад, стол — *tablo*, кніга — *libro*, папера — *papero*. Прыметнікі канчаюцца на *-a*: *blanka* — белы, *nigra* — чорны. Дзеясловы маюць канчатак *-i*: *legi* — чытаць, *paroli* — гаварыць. *Mi legas* — я чытаю. Вы бачыце, што цяперашні час мае канчатак *-as*. Тут трэба дадаць, што гэта адзін канчатак для адзіночнага і множнага лікаў і для ўсіх асоб: *vi legas* — ты чытаеш, *li legas* — ён чытае, *ni legas* — мы чытаем і г. д.

Авалоданне эсперанто не толькі карысна для зносін з іншамоўнымі людзьмі. Яно многа дапамагае пры вывучэнні іншых моў, не выключаючы і сваёй роднай мовы.

Б. МАНКЕВІЧ.

## Беларусь электрычная

Як вядома, энергетыка Беларусі ўсё яшчэ адстае ад патрэб народнай гаспадаркі. Асабліва нездавальняюча развівалася яна ў заходніх абласцях рэспублікі. У шостай пяцігодцы гэты недахоп будзе ліквідаван — удвая больш, чым за ўвесь пасляваенны час увойдзе ў эксплуатацыю электрамагутнасцей. К 1960 году ўсе раённыя цэнтры будуць забяспечаны электраэнергіяй. Намечана электрыфікаваць усе МТС, соўгасы, 40—45 працэнтаў калгасаў. Многае зроблена ў 1956 годзе для ажыццяўлення гэтага плана. Расшырана Мінская ЦЭЦ, узрасла магутнасць Смалявіцкай ГЭС.

— Цяпер у рэспубліцы будуецца некалькі гідрастанцый. У першыя дні новага года пачалося выпрабаванне абсталявання Жухавіцкай ГЭС у Карэліцкім раёне. Хутка яна дасць першы ток. Ідзе мантаж абсталявання на міжкалгаснай ГЭС «Зара комунізма» у Дунілавіцкім раёне. Пачалася ўкладка бетону ў водазліўную пляціну Чыгірынскай гідрастанцыі ў Кіраўскім раёне. Заканчваецца рыццё катлавана пад будынак Гезгальскай ГЭС у Дзятлаўскім раёне.

Многія калгасы будуюць электрастанцыі на ўласныя сродкі.

Весткі аб новых працоўных перамогах ідуць з будаўніцтва буйнейшай у Беларусі Васілевіцкай ДРЭС.

## Зашумяць новыя дубровы

ШЧУЧЫН. — За апошнія гады работнікі Шчучынскага лесгаса правялі вялікія работы па расшырэнню лясных масіваў. Яны пасадзілі і пасеялі тысячы гектараў новых лясоў. Толькі ў мінулым годзе пад маладымі пасадкамі было занята звыш тысячы гектараў малапрыгоднай зямлі.

Цяпер работнікі лясной гаспадаркі разгарнулі падрыхтоўку да вясны. Як толькі сыйдзе снег, яны зноў пачнуць пасадку і сяўбу лесу. Дзесяткі рабочых збіраюць насенне дрэў хваёвых парод. Ужо нарыхтавана звыш 370 кілограмаў такога насення. Прасушваецца і даводзіцца да пасяўных кандыцый насенне ліпы, жоўтай акацыі бераскле та барадаўчатага, дуба. Адначасова з пасадкай лесу лесгас займаецца вырошчваннем каштоўных мічурынскіх гатункаў яблынь і груш. Восенню мінулага года гаспадарка рэалізавала звыш 10 тысяч саджанцаў пладовых дрэў.

За добрае вядзенне лясной гаспадаркі Шчучынскі лесгас зацверджан кандыдатам на УСГВ 1957 года.

 




## Сіла прывычкі



*— А дзе тут месца для прэзідыума?*
*(Кракадзіл)*

## Пахаванне

Кожны ведае, што лепш выправіць два вяселля, чым адно пахаванне. Для працуючых пахаванне з фінансавага боку, гэта ў пэўным сэнсе руіна. Даўно ўжо пара падумаць над змяншэннем коштаў пахавання. Калі ставіцца гэтае пытанне, то пахавальныя кантэры апраўдоўваюцца, што да гэтага часу ніхто з нябошчыкаў не скардзіўся на высокія цэны.

Каму, каму, а профсаюзам даўно-бы трэба было-б над гэтым задумацца. Выходзіць, што член профсаюза праз 10—15 год плаціць членскія ўзносы па 150 злоты штогод, а пасля смерці яго сям'і даюць 500 зл. аднаразовай дапамогі і то не заўсёды і не кожнаму.

Як хочаце, дарагія грамадзяне, але аднаведных умоў для смерці ў нас няма і таму паміраць не аплочваецца. Я напрыклад, пастанавіў трымацца на нагах пакуль сіл хопіць.

Калісьці ў старадаўнасці на пахавальныя працэсіі наймалі плачак. Сёння, ад панесеных расходаў на пахаванні ўсе сваякі бясплатна плачуць.

За выкапанне ямы для нежывога бяруць грошы як з жывога за капанне калодзежа. Вянкі, якія даўжэй захоўваюцца, цэняцца як колы ад воза. Калі хочам пахаванне выправіць з аркестрам, то цана такая высокая, што і жывы можа ў нябошчыка абярнуцца. Труны таксама падаражэлі, сталяры апраўдваюцца тым, што дошкі дарагія, а нябошчыкі цяпер і марыць не могуць аб дубовых трунах.

Скажу вам, дарагія грамадзяне, мяне вельмі цікавіць прачытаць некралог пра сябе. Не можаце сабе ўявіць, да чаго мяне цікавасць распірае даведацца, што рэдактар напіша пра мяне.

Што датычыць водгуку чытачоў, то я ведаю больш-менш аб гэтым.

Некаторыя, калі даведаюцца аб маёй смерці скажуць: — нарэшце гэтага дзядзьку чорт узяў, ён усюды свой нос саджаў, папросім Бельзебуба каб яму як найбольш вугалю падсыпаў і на (маёй) магіле напісаў: Жыў смешна, а памёр — грэшна.

*Дзядзька Лявоні*

## Не стрымаўся...

На покуцю, накрыж рукі зложыўшы, ляжала рабая Таклюся Богу душу аддаўшы. Ля парога народу многа сабралося, а ўперадзе бацюшка рабую Таклюсю памінае.

Каля самага парога Таклюсін муж—Пятрук стаяў. І ўсё прыслухоўваўся і сам сабе ўцяміць не мог, чаму бацюшка яго жонку «рабою» абзывае. Тут ізноў бацюшка сумна выводзіць «памяні Божа рабу Тваю Фёклу». А Пятрук так і не стрымаўся:

— Ты-бы Бога пабаяўся, ці ты іншых пацераў не ведаеш, што маю жонку ўсё рабой абзываеш? Хоць рабая была, але зух кабета! А ты бяжы на сваю паўзірайся. Твар як драчка дык яшчэ да дзячка ходзіць.

Прыслаў
В. ДЗУН
Гайнаўка

### Пацешыў

Прыйшоў Іван да свайго суседа і пачаў бедаваць.

— Для майго Міколы кажушнік пашыў такі кажух, што калі ён яго адзене, то ўсе смяюцца.

А сусед яму ў адказ:

— То яшчэ добра. Бо для майго Пятруся гэты кажушнік так пашыў кажух, што калі ён адзене — то мы ўсе плачам.

Прыслаў
РЫГОР САСНА
Шэрні - Бараноўцы

### „Мужчына"



*— Цікава, што сказала-бы твая маці, каб так убачыла, што ты ўжо курыш?*

*— А мнё цікава, што сказаў-бы ваш муж, каб убачыў, што вы чапляеце мужчын?*

## Пасаг

— Што-б ты хацеў Мішка, каб я даў табе ў пасаг за сваёй Маняй?

— Карову — адказвае Мішка.

— А якую?

— Такую маладую, як і жонка.

—О, братку, тады мусіш яшчэ пачакаць 18 гадоў, бо мая карова мае ўсяго тры гады.

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Што ў цвярозага на мыслі, то ў п'янага на языку.**

**Чалавек ні скаціна, гарэлкі на ваду ні мяняе.**

**Хто часнаку ні есць, у таго з губы смярдзець ні будзе.**

**Гэта як мачаха.**

## ПАВЕЙ ВЕТРУ...

Запісаў Г. І. Цітовіч.




Павей, ветру, ды павей, ветру,
З высокага гаю,
Прыедзь, прыедзь, ды мой міленькі,
З далёкага краю. (2)

Ой, рад-бы я дый павеяці,
Калі гай высокі.
Ой, рад-бы я дый прыехаці,
Калі край далёкі. (2)

Ой, сёння ды суботанька,
А заўтра нядзеля.
Чаму-ж у цябе, ды мой міленькі,
Кашуля не бела? (2)

Ой, ці бела, ці не бела —
Сёмая нядзеля:
Маці стара, сястра мала —
Некаму памыці. (2)

Пераплыла ды дзеўка рэчку,
Села на пясочку,
Дый памыла, дый пакачала
Міламу сарочку. (2)

## ЛАГАГРЫФ




ПА ВЕРТЫКАЛІ:

1) Патрэбны да фатаграфавання.
2) Робяць дзяўчаты з кветак.
3) Утвараецца ад слова «моц».
4) Ледзь прыкметна гарыць...
5) Жанчына, у якой памёр муж.
6) Разбурэнне, напрыклад — скалы.
7) Геалагічная эпоха.
8) Інакш малюнак.
9) Інакш пляма.
10) Маленькі стол.

Літары ў аблямоўцы дадуць развязку.

Сярод чытачоў, якія да дня 20 лютага г. г. прышлюць правільныя развязкі будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

### Падаем развязку адгаданкі з 2 нумара „Нівы"

Лікавую адгаданку можна развязаць у некалькі вар'янтах:

| | | |
|---|---|---|
| 5 7 0 | 2 7 3 | 1 6 5 |
| 1 3 8 | 4 0 8 | 8 4 0 |
| 6 2 4 | 6 5 1 | 3 2 7 і г. д. |

Кніжныя ўзнагароды выйгралі:

1. Казлоўская Яўгенія — Бельск
2. Сяменюк Яўгеній — Дарлова.
3. Лобасюк Анатолій — Слубіцэ н/Одрай
4. Копка Эдвард — Грубкова
5. Кузьмін Георгій — Лапы
6. Голуб Мікалай — Осавец
7. Галубоўскі Янка — Варшава
8. Міранюк Ліда — Дэніскі
9. Германюк Вольга — Аўгустув
10. Бараўская Ірына — Гурнэ.

Узнагароды высылаем поштай.

## АГАФОН АБРОТКА Ў АЎТОБУСЕ



*Агафон хлапчук прыгожы,*
*Дзе парадзіць, дзе паможа.*
*Уносіць бабцы наш «пацан»*
*У машыну чамадан.*

*У аўтобусе, паглядзеце,*
*Стаіць дзядок — сядзяць дзеці*
*Ды сабе гуляюць ў дулі,*
*А дзед спёрся на кулі...*

*Устае абротка жвава*
*(Тут зусім другая справа)*
*Кажа сядзьце вы бабулю*
*А я ў вакно падзіўлюся...*

*Устаў — да Колі і Ганулі:*
*Гляньце дзед стаіць на кулі,*
*Не саромна вам дваім? —*
*Трэба-ж сесці даць старым!..*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25. тэл 25 89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл.80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы. Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13

 